# БЯЛЫНІЦКАЯ ДАЎНІНА

КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ
(дадатак да бюлетэня
ПАХОДНЯ )

№ 2 (21)
КАСТРЫЧНІК
2000 г.


АФІЦЫЙНА

## КРАЯЗНАЎЦЫ АБ"ЯДНАЛІСЯ

*Напрыканцы кастрычніка на Магілёўшчыне адбылася значная падзея - арганізацыйна ўтворана грамадская арганізацыя «Магілёўскае краязнаўчае таварыства імя Еўдакіма Раманава».*

*Безумоўна, у далейшым усё будзе залежыць ад дзеяздольнасці новай грамадскай ініцыятыве,актыўнасці яе рады і сяброў. Аднак,ужо тое,што краязнаўцы магілёўшчыны аб"ядналіся,ёсць станоўчы чыннік.Вядома,нельга існаваць разрознена,асабліва ў сённяшеніх варунках,калі да краязнаўчай дзейнасці далучаецца ўсё большае кола аматараў роднай даўніны.Паводле прынятага Статута таварыства,яно і будзе аказаваць усемагчымую дапамогу і падтрымку тым,хто цвёрда рашыў займацца вывучэннем даўніны свайго роду,вуліцы,паселішча,раёна,краіны...*

*Актыўны ўдзел у рабоце ўстаноўчага з"езду краязнаўцаў магілёўшчыны прынялі і сябры бялыніцкага краязнаўчага Таварыства - Міхась Карпечанка, Святлана Віннікава,Клаўдзія Капылова.*

*Міхась Карпечанка выбраны сябрам рады ГА «Магілёўскае краязнаўчае таварыства імя Е.Раманава».*

ВІНШУЕМ !

## СВЯТЛО ДУШЫ

***Нялёгка знайсці сваё прызванне.Здарацца,што іншы траціць на гэта ўсё сваё жыццё.***

***Ларыса Віктараўна Журавовіч знайшла не толькі сваё прызванне,але і ўласнае месца ў жыцці.***



Ларыса Журавовіч нарадзілася 6 лістапада 1965 года ў Бялынічах. У 1983 годзе скончыла мастацкае аддзяленне Рэспубліканскай школы - інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя І.Ахрэмчыка,а затым і аддзяленне графікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна - мастацкага інстытута.

За нізку каляровых афортаў «Восень. Зямля і людзі» на Усесаюзнай выставе дыпломных работ абзначана бронзавым медалём Акадэміі мастацтваў СССР.

З 1993 года Ларыса Віктараўна з"яўляецца сябрам беларускага Саюза мастакоў.

Вялікае значэнне для раскрыцця творчай індывідуальнасці мастачкі мела вучоба ў творчых акадэмічных майстэрнях Беларусі ў вядомага графіка Георгія Паплаўскага.

Удзельнічае ў раённых ,абласных,рэспубліканскіх і замежных выставах.

Творы Ларысы Віктараўны захоўваюцца ў Бялыніцкім раённым мастацкім музеі імя В.К.Бялыніцкага - Бірулі, Магілёўскай карцінная галерэі імя П.В.Масленнікава, Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі,а таксама ў прыватных калекцыях Польшчы, Германіі,Швейцарыі.

***Надзея Палоннік.***



«Дзе нарадзіўся Бялыніцкі - Біруля»,1999 г.

## ХРОНІКА

***Інфармацыя пра Бялыныцкае краязнаўчае таварыства,якое было ўтворана яшчэ 7 лютага 1926 года і ўзноўлена ў красавіку 1996,арганізацыйна афармленае ў траўні 2000 года, змешчана ў Інтэрнэце на сайце Магілёўскія грамадскія арганізацыі. Акрамя агульных звестак,паведамляецца аб перспектыўным плане дзейнасці Таварыства ,у якім вялікая ўвага нададзена напісанню раённай Краязнаўчай Энцыклапедыі, ажыццяўленню выдання «Мартыралог згубленай архітэктуры».***

Першасныя суполкі раённага Краязнаўчага таварыства арганізацыйна ўтвораны ў Эсьмонскай сярэдняй школе,СШ № 2 Бялынічаў, у Машчаніцкай,Асавецкай і Цяхцінскай сельскіх бібліятэках.

Суполка краязнаўчага таварыства пры Цяхцінскай сельскай бібліятэцы актыўна прыступіла да збору звестак па тэме «Памерлыя вёскі». Дзеля дасягнення найлепшых вынікаў творчае працы,першасныя краязнаўчыя суполкі мясцовай бібліятэкі і сярэдняй школы імя В.Бялыніцкага-Бірулі аб"ядналіся,захаваўшы пры гэтым сваю структурнасць.Заслугоўвае ўвагі,што краязнаўчымі пошукамі школьнікаў кіруюць класныя кіраўнікі.

***Адбылося чарговае пасяджэнне Рады раённага краязнаўчага Таварыства.Разгледжаны справаздачы старшыні Рады М.Карпечанкі,каардынатара Н.Сіманавай аб праробленай імі рабоце па забеспячэнні дзейнасці Таварыства.***

***Прынята рашэнне аб правядзенні чарговых Чацвертых раённых краязнаўчых чытанняў. На гэты раз яны будуць «выязнымі» і пройдуць у Вішоўскай СШ.***

***Адобраны апытальныя лісты,падрыхтаваныя метадычнай камісіяй Рады, па тэмах : «Нашы славутыя землякі»,»-Падзеі на Бялыніцкай зямлі», «Гісторыя калгасаў і саўгасаў раёна».***

***Дадзены рэкамендацыі па распрацоўцы апытальных лістоў па тэмах «Гісторыя грамадскіх арганізацый»,»Прамысловыя прадпрыемствы», «Сельскія Саветы».***

***Дзейнасць Рады ў першым паўгоддзі існавання Таварыства прызнана здавальняючай.***

# ЗА СПРАВУ, КРАЯЗНАЎЦЫ

*У красавіку 2001 года адбудуцца чарговыя краязнаўчыя Чытанні. Чацвертыя па ліку. На пасяджэнні Рады Бялыніцкага краязнаўчага таварыства адзінагалосна прынята рашэнне аб тым,што гэтыя Чытанні прысвячаюцца гісторыі і культуры Вішоўскага сельсавета.*

*Чаму менавіта гэты куток Прыдруцкага краю абраны для даследванняў? Перш за ўсё таму, што ён найменьш вывучаны краязнаўцамі.Калі,для прыкладу,Галоўчыну,Цяхціну,Ланькаву пашанцавала на такіх адданых аматараў вывучэння мінуўшчыны роднага краю,як Васіль Гузаў, Іван Цалавальнікаў,Васіль Цыркуноў, Аркадзь Грыцкевіч, то на Вішоўшчыне,на жаль, падобнага энтузіяста не знайшлося.Пакуль што не знайшлося,- будзем спадзявацца.*

*Праўда,нельга сказаць,што на Вішоўшчыне наогул нічога не рабілася па даследванню мінуўшчыны.- Мы з удзячнасцю сёння згадваем імёны Сцяпана Бекарэвіча,- П.Рачкоўскага,якія напрыканцы XIX - пачатку XX стагоддзяў даследвалі побыт,этнаграфію і фальклор вішоўскіх сялян.*

*дзякуючы публікацыям настаўніка Івана Сідарэнкі мы ведаем пра ваенны подзвіг камяніцкага хлопца Я.Блізнякова ( увекавечаны ў вядомым фільме «Маёр Віхар», сям"ю Глёкавых з Вішова.*

*Нежкаў даў Беларусі вядомага вучонага - інжынера Іванова,след якога згубіўся ў камуністычным ГУЛАГу.*

*Працаўнікі Беларускай МТС ( Нежкаў) П.Бараноўскі,Ф-.Грынкевіч, М.Дзедзела Ў,В.Нікалаеў былі ўдзедьнікамі Першай усесаюзнай сельскагаспадарчай выставы 1940 года.На ёй быў прадстаўлены і мясцовы калгас «1 мая». Пра гэтых людзей,іх лёся нічога невядома.*

*Вось чаму Рада краязнаўчага таварыства заклікае ўсіх настаўнікаў,вучняў старэйшых класаў, аматараў даўніны звярнуць ўвагу ў сваіз пошуках на гісторыю Вішоўскага сельсавета.*

*З вашай дапамогай і пры вашым непасрэдным зацікаўленьым удзеле мы зможам адкрыць не адну цікавую старонку далёкага і блізкага мінулага Вішоўшчыны.*

*Плануецца,што на Чацвёртых краязнаўчых чытаннях даследванні па Вішоўскаму сельсавету займуць асноўнае месца.Што аніўякім разе не азначае адсутнасць іншых матэрыялаў.*

**Міхась РАДОЎСКІ**

### З НАГОДЫ

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ГЕРБ

***На сваім кастрычніцкім пасяджэнні райвыканкам прыняў рашэнне аб узнаўленні герба Бялынічаў.Мабыць,усё ж такі існуюць нейкія вышэйшыя нябесныя сілы,якія кіруюць нашымі паводзінамі і ўчынкамі.Я не вялікі аматар паралеляў,аднак у звязку з гэтым рашэннем так і хочацца згадаць наступнае : менавіта 4 кастрычніка 1634 года з лёгкай рукі ўладальніка Бялынічаў Казіміра Сапегі месцічы атрымалі прывілей на самакіраванне. Атрымалі вольнасці паводле Магдэбургскага права.***

***З таго часу мястэчка і яго жыхары атрымлівалі аўтаномію. кіраваліся асобнымі законамі. Жыхары станавіліся вольнымі, мяшчані ( ніжэйшае саслоўе зроўнівалася ў сваіх правах з прывіліяванай катэгорыяй - шляхтай. Мешчанін мог прыцягнуць да судовай адказнасці кожнага шляхціца,калі той нейкім чынам ушчамляў яго правы).Таму і не дзіўна, калі пасля захопу беларускіх земляў Расія скасавала магдэбургскае права,бялынічане пачалі актыўна бараніць сваю вольнасць.Змаганне тое завяршылася паразай : найбольш актыўныя ўдзельнікі змаган-***

*(Гл. 3 ст.)*

У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ

# З КІМ РАЗАМ БЫЛІ

**На мяжы Х11 - Х1У ст.ст. Бялыніцкая зямля поруч з іншымі беларускімі тэрыторыямі ўвайшла ў склад магутнейшай дзяржавы - Вялікага княства Літоўскага,Рускага і Жамойцкага.**

У ХУ стагоддзі цэнтральная і ўсходняя часткі сучаснай тэрыторыі раёна адносіліся да валасці,цэнтрам якой быў замак Цяцерын. Тэрыторыя валасці прасціралася на поўдзень паабапал Друці праз увесь цяперашні Бялыніцкі раён.

Цяцерынская валасць належыла князю Сямёну Лугвену Альгердавічу,- галоўнай вотчынай якога было Мсціслаўскае княства.

Паблізу Мсціслаўя князь заснаваў праваслаўны Анупрыеўскі манастыр,- якому і ахвяраваў «даніну мядовую цяцерынскую».Гэтае прынашэнне ўзгадваецца і больш позніім дакуменце,які датуецца 1468 годам,калі ўнук Сямёна князь Іван Юр"евіч Мсціслаўскі пацвердзіў манастыру папярэднія прывілеі бацькі і дзеда.У гэтым дакуменце прыгадваецца шэраг сялянскіх павіннасцяў ў сяле Галоўчын на карысць Анупрыеўскага манастыра.

Пасля смерці Сямёна ў 1431 годзе яго валоданні перайшлі да сына Юрыя.Аднак ён страчвае іх праз год,калі выступіў супраць вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча.

Праз пяць гадоў Юрый заміўыўся з нлвым вялікім князем Казімірам і атрымаў свае вотчыны назад.

У далейшым Галоўчын разам з Цяцерынскай валасцю з"яўляўся ўласнасцю князя Івана Мсціслаўскага.

У 1501 годзе Аляксандр Казіміравіч падараваў Галоўчын сваёй жонцы Алене,якая была дачкой маскоўскага князя Івана Трэцяга.Праз восем гадоў Алена Галоўчын разам з усходняй часткай бялыніцкай зямлі дорыць маскоўскаму паводле паходжання князю Мацвею Мікіцінічу.

Пасля раптоўнай смерці Алены (1513) валасць адышла да вялікага князя Жыгімонта 1.

Да сярэдзіны ХУ1 ст. Галоўчын і раздробленая на часткі Цяцерынская валасць уваходзіла ў склад Віленскага ваяводства.

У выніку адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1565 года бялыніцкія землі ўваходзяць у склад трох валасцей Аршанскага павета Віцебскага ваяводства.Асноўная частка падпарадкоўвалася Цяцерынскаму валасному ўпраўленню, паўночна - заходняя ад Эсьмонаў да Клеўкі,паабапал ракі Клява - Барысаўскаму, ад Карытніцы да Замачулля - Любашанскаму.І зусім невялічкая частка земляў ад Пільшычаў і далей на поўдзень увайшла ў склад Быхаўскага графства.

Бялынічы і Галоўчын з"яўляліся мястэчкамі.У іх меліся замкі,яны з"яўляліся цэнтрамі маёнткаў.

У 1577 годзе ў сувязі з размежаваннем паміж Цяцерынскім маёнткам князя Збаражскага і маёнткам Галоўчын,што належыў князю Шчаснаму Яраславічу Галоўчынскаму, вылучаецца Галоўчынская валасць,складнікамі якой сталі землі

**А. МАРОЗАЎ.**

*(Працяг на 3 ст.)*

*У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ*

## З КІМ РАЗАМ БЫЛІ

абапал ракі Вабіч з вёскамі Кудзін,Свяцілавічы.

У ХУ1 ст., акрамя Галоўчына і Бялынычаў,на мапе нашых земляў з"яўляюцца такія паселішчы,як Алешкавічы,Ількавічы,Ігліца,Дабрылавічы і інш.

Мястэчкі Галоўчын і Бялынічы ,як і гарады, станавілдіся цэнтрамі рамяства і гандлю.Звычайна, 20 - 30 адсоткаў жыхароў іх былі рамеснікамі,налічвалася па 15 - 20 прафесій.

Аднак асноўным заняткам заставалася сельская гаспадарка.

З канца Х1У стагоддзя буйных землеўласнікаў сталі называць панамі, а самых буйных - магнатамі.

Феадалы мелі права на суд над залежным ад іх насельніцтвам.За карыстанне зямлёй сяляне павінны былі выконваць павіннасці. Паводле сваіх абавязкаў яны падзяляліся на цяглых і дваровых.

Цяглыя спачатку выплочвалі аброк,а ў пачатку ХУ ст. былі пераведзены на чынш.

Дваровыя сяляне адбывалі паншчыну.

У 1557 годзе з"яўляецца дакумент за подпісам Жыгімонта Аўгуста «Устава на валокі »

У адпаведнасці з патрабаваннямі яго,была праведзена разбіўка зямлі на валокі - 21,36 гектара.Звычайна, валока адводзілася ў 30 моргаў,па 10 у кожным полі.Пры гэтым уладальнікі зямлі адбіралі лепшыя ўчасткі ў сялян пад свае гаспадаркі - фальваркі.

***Анатоль Марозаў, настаўнік.***

Конкурсы

## ХТО ЛЕПЕЙ ВЕДАЕ СВОЙ КРАЙ ?

**Аддзелы адукацыі,культуры, па рабоце з моладдзю райвыканкама аб"явілі аб пачатку конкурса на лепшы краязнаўчы матэрыял.Мэта яго - вывучэнне гісторыі раёна,выхаванне патрыятызму ў асяродку дзяцей і моладзі.**

**Паводле палажэння, у конкурсе могуць удзельнічаць школьнікі і моладзь, узростам да 31 года.**

**Конкурсныя работы прымаюцца да 10 красавіка 2001 года.**

**Пераможцы раённага конкурса вызначаюцца па наступных намінацыях :**

**а) гісторыя населеных пунктаў;**
**б) нашы знакамітыя землякі;**
**в) абрады маёй мясцовасці;**
**г) паходжанне назваў населеных пунктаў,урочышчаў;**
**д) помнікі прыроды.**

**У кожнай намінацыі выяўляецца па аднаму пераможцу.Журы таксама можа прысуджаць і заахвочвальныя прызы.**

**Лепшыя даследванні будуць рэкамендаваны для прадстаўлення на Чацвёртых раённых краязнаўчых чытаннях.**

*УЛ. ІНФ.*

НАШЫ ЗЕМЛЯКІ

## ГАЛОЎЧЫНСКІ ВЫНАХОДНІК

***Галоўчынская зямля надзвычай багатая на таленавітых людзей.Тут нарадзіліся пісьменнікі,артысты,вучоныя...***

***Галоўчын - радзіма вынаходніка-самародка Рыгора Аксельрода.***

Як і многія вяскоўцы,Рыгор у 1928 годзе падаўся ў горад.Выбраў далёкі Ленінград.Паколькі яго цягнула да тэхнікі,уладкаваўся на вучобу да майстра гадзіннікаў. Праз нейкі час ён настолькі асвоіў механізм хранометра,-што прапаноўвае ўласную канструкцыю дакладнага астранамічнага гадзінніка.За гэтае вынаходніцтва Рыгор Сымонавіч атрымлівае першае ў сваім жыцці аўтарскае пасведчанне.

У 1934 годзе Рыгор працуе механікам эксперыментальнага цэху прыборабудаўнічага завода.Тут ён упершыню пазнаёміўся з «ланцужком Галя» - гібкай адмысловай сістэмай перадач, якая забяспечвала высокую дакладнасць,раўнамернасць і адчувальнасць прыбора.Такі ланцужок выраблялі толькі ў Швейцарыі.Тэхналогія яго вытворчасці захоўвалася ў сакрэце.

У Рыгора з"явілася смелая задума сканструяваць станок па вытворчасці «ланцужкоў Галя».І неўзабаве,дзякуючы прыроднай кемлівасці,-Рыгор Сымонавіч сканструяваў - такі гэты апарат.

Яго праца была адзначана Дзяржаўнай прэміяй.

Яшчэ да вайны Рыгор Сымонавіч вынайшаў схему бульбаўборачнага камбайна.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Р.С.Аксельрод ппрацаваў на адным з заводаў Пярмі.Ён сканструяваў штамп,які зрабіў цэлую рэвалюцыю ў метадах вытворчасці : павялічыў прадукцыйнасць працы ў 150 разоў.

У 1948 годзе Аксельрод разам з В.Ф.Гудавым вынайшлі апарат па сшываванню кравяносных сасудаў. Спецыяльная камісія на чале з правадзейным членам Акадэміі медыцынскіх навук В.М.Шамавым рэкамендавала выкарыстоўваць гэты апарат у клінічных умовах.

І далей працягвалася ўдасканальванне гэтага апарата.Гэту праблему вырашалі многія вучоныя.Аднак прынцып дзейнасці апаратаў заставаўся прапанаваны Аксельродам.

Р.С.Аксельрод мае больш за 20 аўтарскіх пасведчанняў.

Памёр Рыгор Сымонавіч у 1972 годзе.

**Г. ЛАПО.**

*З НАГОДЫ*

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ГЕРБ

*ня (заўважым, не ўзброенага, а мірнага,судовага) былі бізунамі высечаны і высланы на катаргу.Тыя ж з бялынічан,хто так ці іначай падтрымлівалі іх ,паводле выроку Сената,былі аб"яўлены прыгоннымі Водгулле таго прысуду адчуваецца і па сёння.Бялынічане не ведаюць свайго герба.*

*Рашэнне райвыканкама аб узнаўленні гістарычнага герба мястэчка трэба толькі вітаць.Аднак вельмі насцярожвае тое,што грамадскасць раёна не ведае тых асобаў, якія будуць ажыццяўляць тое рашэнне. Райгазета скупа паведаміла ( «Зара над Друцпю», № 86): «Створана раённая камісія, якая будзе займацца гэтым важным пытаннем.Прадугледжана да 1 кастрычніка 2001 года разгледзець яе прапанову на сесіі раённага Савета дэпутатаў, а да 1 студзеня 2002 года правесці рэгістрацыю герба г.п.Бялынічы ў дзяржаўнай геральдычнай службе Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь».*

*Важнае тут, безумоўна, - хто ўвойдзе ў склад гэтай адмысловай камісіі.Безыніцыятыўны,раўнадушны чыноўнік ці патрыёт.Абыякавы,як вядома, не мае ўласнае пазіцыі.А калі нават і мае яе, то адс -*

(Гл. 4 ст.)

ФАЛЬКЛОР

# ПЕСНІ СІВОЙ ДАЎНІНЫ

*Нястомны даследчык мінуўшчыны бялыніцкага раёна,Васіль Гузаў сабраў і некалькі дзесяткаў народных песень.Сёння прапануўваем увазе чытача некаторыя запісы з архіва Васіля Дзітрыевіча.*

**А ў полі,полі**
**Стаіць яблынька.**
**На той яблыні**
**Адно яблычка.**
**Тое яблычка**
**адвалілася,**
**Па карэньчыках**
**паваліліся.**
**А ў бацюшкі -**
**Адзін сыночак,**
**Адзін сыночак,**
**Як сакалочак.**
**І той на вайну**
**Сабіраецца.**
**Бацьку,матцы**
**пакланяецца.**
**Маладой жане**
**паклоны б”е.**
**«А прашчай,**
**бацюхна,**
**Прашчай,матухна.**
**Паміраць буду -**
**Пісямцо прышлю.**
**Калі жыў буду,**
**Назад прыйду.**
**Бацьку,матачцы**
**Пастаўлю царам.**
**Маладой жане**
**Прывязу шубу**
**сабаліную.**
**Маладому**
**сыночку-**
**Варанога каня».**

XXX

**А ёсць у полі дзве дарожачкі розных,**
**А хадзіў барын да дзяўчынкі позна.**
**«А ты больш не хадзі да мяне,**
**Будзе слава пра мяне і цябе».**
**«Я той славы вавек не баюся,**
**А з кім люблюся,з тым ажанюся,**
**Каго знаю,з тым павянчаюся»**

XXX

**А па вуліцы сівы конь бяжыць,**
**Яго грывачка развіваецца,**
**Молад Федзечка ўцяшаецца.**
**«Косю сівенькі,белагрывенькі!**
**Ай,уцеш мяне на чужой старане**
**Перад дзеўкаю,перад цешчаю».**
**«Перад цешчаю я стаяць буду,**
**Перад дзеўкаю я плясаць буду».**

XXX

**Павянчаўшыся, да шынкарачкі**
**пойдзем.**
**Шынкарачка,шынкарачка шумела.**
**У нядзельку рана маю доньку біла.**
**А дзе донька вяночак згубіла?**
**Ці на моры палотны бяліла?**
**Ці ў агародзе каноплі брала?**
**Ці на вуліцы з казаком гуляла?**
**Адкуль узяўся казак маладзенькі,**
**Сарваў,згубіў веньчык залаценькі.**

*Песьні запісаны са слоў Марфы Рыгораўны Маслёнкі (в.Галоўчын) у 1952 годзе.*

**А не вейце,ветры, у полі,**
**А павейце на дубраву.**
**А мой брацец з вайны ідзе,**
**На ім шапачка,як агонь,разгарэлася,**
**А на баку шабелька,як лучына,шугае.**

**На стале - гармонь,**
**Пад сталом - гітара.**
**Хлопцы дзевак**
**прададуць**
**Па капейцы пару.**

XXX

**А мой мілы хітры,**
**хітры,**
**Я яшчэ хітрэй яго.**
**Ён падругу маю**
**любіць,**
**Я - таварыша яго.**

XXX

**Мы думалі,сваты**
**едуць,**
**А ж яны пяшком**
**ідуць.**
**Маладога ў мяшку**
**нясуць.**
**Яго ногі цяляпаюц-**
**ца,**
**Сабакам наругаюц-**
**ца.**
**Ногі з мяшка тыр-**
**чаць.**
**Сабакі дагналі,**
**Ногі пакусалі.**

*Запісана ў 1953 годзе са слоў жыхаркі Галоўчына Софіі Рыгораўны Мельнікавай.*

ДАКУМЕНТЫ

## *РАПАРТ СЯРМЯЖАНСКАГА ВАЛАСНОГА ПРАЎЛЕННЯ МІРАВОМУ ПАСРЭДНІКУ 2-ГА ЎЧАСТКА МАГІЛЁЎСКАГА П. АБ НЯПРАВІЛЬНЫМ СПАГНАННІ З СЯЛЯН ВЫКУПНЫХ СУМ ЗА ЗЯМЛЮ*

«Сяляне Пустасельскага сельскага таварыства в.Вялікая Бахань,былога пана Рудольфа Пішчалы,з-”явіліся 18 траўня ў праўленне,прасілі,-каб праз яго прадставіць в.в.б. сведчанне былога іх пана Р.Пішчалы на разгляд і распараджэнне ў тым,што ён сапраўды з сялянамі заключыў умову выплочваць не выкупную суму за зямлю,а аброчны плацеж з кожнага двара па 10 р.срэбрам на карысць пана.Пры гэтым Сярмяжанскае валаснoе праўленне мае гонар прадставіць гэтае пасведчанне і просіць аб сіле яго паведаміць праўленне прадпісаннем для паведамлення вышэйзгаданых сялян.Пры гэтым Сярмяжанскае валаснoе праўленне гонар мае далучыць,што да спагнання выкупной сумы за зямлю з гэтых сялян з боку валаснога праўлення не робіцца аніякага паслаблення,а спаганяецца не з двара па 10 р.,а з кожнай рэвізскай душы,вызначанай па статутнай грамаце атрымаць надзел,па 6 р. 40 к.

Валасны старшына Міхайла Савельеў.

Валасны пісар Красніцкі.

20 траўня 1865 г».

*З НАГОДЫ*

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ГЕРБ

*тойваць яе не будзе.Калі такіх у камісіі будзе большасць - застанемся з гербам, падобным да таго знака,што ўстаноўлены пры ўездзе - выездзе з Бялынічаў па Менскай шашы.*

*Ведаю шмат бялынічанаў, якія хацелі б, каб мястэчка вярнула свой гістарычны герб.Герб,нададзены Бялынічам 4 кастрычніка 1634 года.*

*Дзеля гэтага вяртання неабходна карпатлівая праца ў архівах Расеі і Польшчы.*

*Дзеля гэтага вяртання неабходна «ўзаконіць» свята Бялынічаў 4 кастрычніка.Аб чым мясцовыя краязнаўцы ўпрошваюць мясцовыя ўлады не адзін год.Вось і сёлета гэты значны дзень у гісторыі Бялынічаў прайшоў незаўважна,анічым не быў вылучаны.*

*Дзеля вяртання сапраўднага, а не прыдуманага сёння герба , патрэбна,каб у камісіі працавалі патрыёты свайго мястэчка.*

**М.Карпечанка.**

**У красавіку 2001 года адбудуцца 4 раённыя краязнаўчыя чытанні. Запрашаем прыняць удзел у іх усіх аматараў даўніны,настаўнікаў і вучняў, работнікаў культуры.**

**Па неабходныя даведкі трэба звяртацца па тэл. 51-392.**

БЯЛЫНІЦКАЯ *ДАЎНІНА*
КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ
( дадатак да газеты ПАХОДНЯ )
РЭДАКТАР *МІХАСЬ КАРПЕЧАНКА*
Тэл. 53 - 078
распаўсюджваецца бясплатна
НАКЛАД 299 ПААСОБНІКАЎ

# ДАЧКА ВОЛІ

**На падыходзе - юбілейная дата вякоў.Тысячу гадоў беларусы пражылі з памяццю пра непакорную Полацкую князёўну Рагнеду.Праз сына Ізяслава яна паклікала суайчыннікаў і нашчадкаў змагацца за дзяржаўную незалежнасць.Чарговая п"еса Міхася Карпечанкі «Дачка волі», прысвечаная светлай памяці Міколы Ермаловіча,узнаўляе жыццё легендарнай Рагнеды.**

**Прапануем увазе чытачоў урывак з гістарычнай драмы «Дачка волі».**

Сяльцо Прадславіна на беразе рэчкі Лыбедзь.Тут у няволі жыве Рагнеда.Князь Уладзімір пайшоў у свой чарговы паход на вяцічаў.

У Прадславіна завіталі купцы.

**Рагнеда.** Я рада вас вітаць у сваім сяльцы маленькім. Гасцям здарожаным начлег патрэбен?

**Старэйшына.** Калі княгіня міласэрна будзе так, з удзячнасцю прымаем прапанову. Мы дакучаць не будзем. Адпачнем і заўтра ў шлях ізноў.

**Рагнеда.** Я распарадзілася : пакоі вам прыбралі. А кметы папільнуюць ваш тавар.

**Старэйшына.** Хай будзе дом заўсёды ваш багаты. Багамі нашамі благаслаўлёны. Здароўя – дзецям, радасці – бацькам! І Мокаш хай заўсёды спрыяе ў добрых справах вам.

**Рагнеда.** Вялікі дзякуй за пажаданні шчырыя. Але ж. . . сядай ты, госцейка, за стол.

**Старэйшына.** Дзякуй. (Адвешвае зямны паклон).

**Рагнеда.** З якіх зямель твой шлях ляжыць? Куды тавар ты свой вязеш?

**Старэйшына.** Дарога наша доўгая. З варагаў свой тавар вязем. Да грэкаў.

**Рагнеда.** А ў Полацку былі?

**Старэйшына**. (Пасля паўзы). Былі і ў Полацку, у Друцку. І ў Тураве былі. (Уважліва пазірае на Рагнеду). Як птушка Фенікс, Полацк з прысаку паўстаў. Адбудаваўся. . .

**Рагнеда.** Ці помняць людзі князя Рагвалода?

**Старэйшына**. Курган насыпалі яны па звычаю паганскаму, дзе князь з княгіняй і сынамі спачываюць. У песнях славяць яго час і мужнасць князеву не забываюць.

*Убягае Ізяслаў. Служанка спрабуе не пусціць яго.*

**Рагнеда.** Са мной няхай маё дзіця пабудзе. (Служанка закрывае дзверы. Яна будзе надалей час ад часу заглядваць у пакой, нібыта штосьці шукаючы). А гэта (Паказвае на хлопчыка) – сын мой. Ізяслаў.

**Старэйшына**. Крывінка князя Рагвалода.

**Рагнеда**. Ты ведаеш?

**Старэйшына**. Я родам з Полацкай зямлі.

**Рагнеда**. А як завуць цябе, скажы?

**Старэйшына**. Я - Адзіхмант.

**Рагнеда.** Адзіхмант? Ці не Сахору брат названы?

**Старэйшына**. Ты ведаеш Сахора?

**Рагнеда**. Ёнварту тут вось расстаўляў. . .

**Адзіхмант**. Расстаўляў?

**Рагнеда.** Вялікі князь з сабой Сахора ў паход на вяцічаў забраў. Хай беражэ Пярун яго ласкавы.

**Адзіхмант**. Сахор табе апавядаў?

**Рагнеда**. Казаў. . .

**Адзіхмант.** (Ківае галавой на дзверы. Напаўголаса). Не варта далей. Усё я зразумеў. (Яшчэ цішэй). Я - не купец, княгіня! Воін я! Наш край забраны з гвалтам не зміры́ўся. Дзе можна, б'ём дружыны Уладзіміра. У нас ёсць воля і жаданне свой край ад злыдняў бараніць. І з намі дух, княгіня, Рагвалода,- надзея князя Ізяслава.

**Рагнеда.** Пра што ты кажаш?Тут я, быццам у цямніцы, запёртая, замкнутая, сяджу.

Мой край – жыве? !

Бароніцца Айчына!

**Адзіхмант**. Змагаецца Айчына. Волю здабывае. Пад гэтым знакам родавым сваім (Паказвае і перадае Рагнедзе амулет з выявай збройнага вершніка з аголеным мячом у руцэ).

**Рагнеда.** (Хавае на грудзях амулет). Ён будзе грэць мяне ў няволі. І сілы прыдаваць. . . А многа вас, хто злой нядолі не скарыўся?

**Адзіхмант**. Хоць сілаў мала, прыхадняў мы б'ём : увосень нашы дзіды Чарнігава дасталі.

Рагнеда . (Здзіўлена). Чар-ні-га-ва? !

**Адзіхмант.** Палон тады вялікі мы ўзялі. Мячоў, кальчуг набралі ўдосталь. Палегла шмат братоў і нашых - за волю жываты свае аддалі.

**Рагнеда.** Адбіў свой горад Уладзімір?

**Адзіхмант.** Мы адышлі, каб з сіламі сабрацца, падумаць, што і як далей рабіць. Змагацца як.

**Рагнеда**. Маё ты сэрца развярэдзіў. Збудзіў душу.. . Збяруся зараз я. З табой паеду. За волю разам будзем мы змагацца.

**Адзіхмант.** Чакай, княгіня. Я тут - адзін. А тыя ўсе, хто ёсць са мной, сапраўдныя купцы. З табой заслоны нам не прайсці – паўсюль віжакі, шпігі Уладзіміра. Загінеш, карысці палачанам не прынёсшы.

**Рагнеда.** Я так засумавалася па волі, па полаччыне роднае сваёй. . .

**Адзіхмант.** Цябе я добра разумею. Але ж падумай ты, цяпер пагубіш дзетак. І Рагвалодаў корань абарвеш. Нам трэба дзейнічаць іначай.

**Рагнеда.** Ідзі (Ізяславу), мой сыне, пазабаўляйся на двары.

**Адзіхмант.** Не трэба здзек цярпець, маўкліва пераносіць. Змагацца трэба – сам памрэш, астатнім будзе прыклад яркі. Яго пабачаць і пачуюць. Няхай заб'юць! А памяць застанецца, уваскрэсне і некалі ярмо здзярэ. І мёртвыя, мы ўнукам дапаможам. Ніхто нам волю не прынясе, акром саміх. Захочам жыць палюдску волю і здабудзем. А не – рабамі ўсе памрэм.

*Адзіхмант і Рагнеда застаюцца удвух. Яны пра нешта шэптам дамаўляюцца. Рысы твару Рагнеды набываюць рашучасць. У вачах гараць іскры помсты, гневу.*

**Адзіхмант**. Цяпер і ты, княгінюшка Рагнеда, названай стала мне сястрой. Ты з Полацкам. І з палачанамі!

**Рагнеда**. Каб зло забіць, дастаткова часам і аднаго згубіць.

**Адзіхмант**. Чакай Сахора. Ён падкажа, што зрабіць. Настане хутка час расплаты. І стане вольным родны край.

Цяпер пайду я, адпачну. Нялёгкая наперадзе дарога.

Чакай Сахора.

*Выходзіць. Перад парогам паварочваецца да Рагнеды і нізка-нізка кланяецца. Схіляе ў паклоне галаву і Рагнеда.*

*Прыцемкі. Рагнеда галосіць. Праз нейкую хвіліну да яе голасу далучаецца і плач Мокашы.*

**І куды ж ты , мой родны татачка адляцеўся?**
**І на каго ж ты мяне бедную пакінуў?**
**Вярніся, вярніся, любы татачка-**
**Пашкадуй мяне, бедную сіраціначку.**
**Глянь на мяне бяздольную,**
**Як я слязамі абліваюся.**
**Бывай, бывай жа, мой татачка.**

*(Працяг на адвароце.)*

**Бывай жа, бывай, мая мамачка.**
**Бывайце, мае брацікі родныя.**
**Больш я вас ужо не пабачу!**
**Больш да вас ужо не прыйду!**
**А дарожанька ваша дужа крывавая.**
**А ножанькі вашыя дужа пазвіваныя.**
**Жоўтыя пясочкі ды ў вочкі зацякаюць!**

*Сядзіба на рэчцы Лыбедзь. Прыцемкі. Пакой Рагнеды.*

*Галасы на дворы:"Вялікі князь прыехаў!" ""Слава неперамoжнаму Уладзіміру! ""*

*Служанка стаіць пры дзвярах. Уваходзіць Уладзімір. Нападпітку.*

**Уладзімір**. (Да Служанкі). Гарыслава дзе?

**Служанка.** Вялікі князь. ( Кланяецца да зямлі) яна на беразе Дняпра.

**Уладзімір.** З дзецьмі? Ці – адна?

**Служанка.** З Ізяславам.

**Уладзімір.** (Прысаджваецца на ложак). Распавядай сумленна, чым займалася княгіня, калі князь Уладзімір ваяваў? Хто прыязджаў? Куды хадзіла? Аб чым шапталася? Кажы!

**Служанка.** (Схіляецца ў паклоне). Клянуся Перуном вялікім, што праўду ўсю скажу. Калі ж зманю - хай пакарае люта мяне Зніч.

**Уладзімір.** Цяпер Ісусам трэба клясціся. Яго ў сведкі браць. Зрэшты, караць жа буду я. (Папраўляе меч).

**Служанка.** Ісус! Дык ім клянуцца мніхі, што ў пячорах на Андрэеўскай гары жывуць. А наш галоўны Бог – Пярун залатавусы.

**Уладзімір.** Я новага даю вам Бога. Ісусам ён завецца.

**Служанка**. О, Мокаш, светлая. . .

**Уладзімір.** Дос! Кажы.

**Служанка.** Купцы ў сяльцо аднойчы прыязджалі. Князь у паходзе тыдні тры тады правёў. І быў адзін з іх – Адзіхмант.

Уладзімір. У, гад! Сюды паспеў - такі дабрацца. (Нецярпліва). Кажы далей.

**Служанка.** Ён з Гарыславай гаварыў. Чарнігаў прыпамінаў. . . Пра Полацк згадвалі тады. І князя Рагвалода памянулі. . .

**Уладзімір.** І гэта – усё, што ты пачула?

**Служанка.** Шапталіся. Прабач, князь, не пачула.

*Уладзімір бізуном б'е служанку. Тая, сагнуўшыся ў крук, пакорліва пераносіць удары.*

Вінаватая, князь вялікі! Вінаватая! Даруй!

**Уладзімір.** (Здаволіўшыся). Цябе я віжкаю зрабіў, каб чула ўсё! Усё бачыла і ведала ўсё. Мой хлеб ясі. А ці яго ты зарабіла працаю сваёй? Забылася на службу. Вон з двара майго! З вачэй маіх далоў!

**Служанка.** Даруй, мне князь! З двара свайго на гібель не гані. Віну сваю я адпрацую і загладжу. Вярней сабакі вернага служыла і служыць я буду.

**Уладзімір.** І гэты. . . Ізяслаў. . . тады таксама з імі быў?

**Служанка.** Спачатку быў. Затым гуляць адправілі яго. Пакінуць княжыча аднаго я не магла. За ім , вось, назірала. . . Не ўсё дазналася. . .

**Уладзімір.** Пільнуй княгіню. Кожны крок яе. Пільнуй! І нават у сны яе мне забярыся! Ты сэрца выверні яе, душу і мне ўсё далажы.

**Служанка.** (Схіляецца ў глыбокім паклоне. Апускаецца на калені, цалуе боты Уладзіміра). Я ўсё зраблю, мой добры князь! Я вочы не самкну.

**Уладзімір.** (Адштурхоўвае яе нагой). Пайшла!

*Служанка на каленях выпаўзае з пакоя.*

Чакай! Хоць праз пень асінавы ты тройчы перакінься, мне ўсё адно, а ведай, што княгіня робіць тут, чым галава яе занята.

*Служанка ля дзвярэй.*

Знайдзі яе і мігам прывядзі.

*Уладзімір адзін. Шырокім крокам ходзіць па пакоі.*

Чаго ёй толькі не хапае? У галаву сабе я не вазьму. Бач, крыўду затаіла. Камень цяжкі за пазуху схавала. Па ёй даўно ўжо меч булатны плача ці слёзы л'е пянькова пятля.

О, Мокаш! Цьфу! Ісусе, што я гавару! Люблю яе! А, можа, болей ненавіджу. . .

*Сядае на ложак, бярэ ў рукі Рагнедзіну намітку. Разглядае яе, удыхае пахі, прыціскае да грудзей.*

Рука яе намітку гладзіла, трымала. . . Зрабіць з сабой нічога не магу. І ненавіджу я яе. Люблю.

Люблю і ненавіджу! О, Багі! Навошта вы праклён такі паслалі? Гару я – не жыву, бо сіл трываць такое не хапае.

Забыцца на Рагнеду не магу. А Гарыславу люта ненавіджу. Чаму не сам адрэзаў ёй касу, як сілай браў у крыві бацьковай лужы?

Спалохаўся!

Я зазірнуў у вочы ёй. . . Нямоглая, яна ляжала ў возе. Паўднёвы вецер валасы яе часаў, галубіў твар, аголеныя плечы.

Як мёртвая яна тады была! Як нежывая. А вочы лютасцю яе пылалі -гарэў касцёр вялікай помсты. На ім цяпер я зажыва згараю. Пякуся, пражуся і ўсё ніяк у вугаль чорны не ператваруся.

Баліць душа. Знібее сэрца ў змозе.

. . . А, можа, мне яе забіць? Далоў з вачэй і з сэрца – прэч!

*Уваходзіць Служанка. Кланяецца.*

**Служанка.** Вялікі князь! Княгіня Гарыслава.

**Уладзімір.** (Імгненна падхопліваецца з ложка). Няхай заходзіць. Я даўно яе чакаю.

*Заходзіць Рагнеда. Кланяецца Уладзіміру.*

**Уладзімір.** (Здзіўлены). Я бачу перамены немалыя. Няўжо скарылася?

**Рагнеда.** Змірылася я з доляю сваёй. Здаецца мне, ці не адно і тое ж : ці быць рабыняй, ці з нялюбым жыць!

**Уладзімір.** А я. . . Кахаю я цябе.

**Рагнеда.** А не каханнем, князь, парокай маё ты цела ўзяў сабе на здзек.

**Уладзімір.** Не трэба ўспамінаць былое. Яно – што дым : вось быў, цяпер яго няма. Пайшоў за ветрыкам у чыстае ён поле, на луг ці ў лес. . . А вецер ці дагоніш? Давай не будзем лепш пра тое ўзгадваць, былым адно другое не будзем папракаць. Жыццё ідзе. Яно зацягне рану. . .

**Рагнеда**. А знак ад раны той крывавай застанецца. .

**Уладзімір**. Жадаеш, золатам засыплю! Захочаш – срэбрам завалю! Вазьму ў Кіеў стольны. . .

**Рагнеда**. Вярні маёй радзіме волю.

**Уладзімір**. (Павольна налівае віно ў кубак). Яе ніхто не адбіраў.

**Рагнеда.** Ты Полацк мой спаліў!

**Уладзімір.** Цябе я толькі ўзяў. А горад твой і гараджан тваіх варагі, меры, чудзі рабавалі.

**Рагнеда.** Ты такое – загадаў!

**Уладзімір.** Не загадаў – паабяцаў. Інакш хто б мне дапамог адолець сілу Рагвалода? Яны зрабілі сваю справу. Я, слова даўшы ім, яго стрымаў.

**Рагнеда**. Мяне ты ўзяў, у брудзе пакачаўшы! Бацькоў забіў, братоў згубіў. Навошта край мой любы заняволіў?